❑ ***Прыняты шэраг указаў Прэзідэнта і пастаноў урада па паляпшэнню сацыяльнага становішча розных слаёў насельніцтва рэспублікі.***
*1-я стар.*
❑ ***Старшыня Дзяржкамдруку лічыць, што беларускія СМІ з`яўляюцца «носьбітамі і выканаўцамі агульнадзяржаўных клопатаў і інтарэсаў».***
1-я—2-я стар.
❑ ***Глыбінка: і да сённяшняга дня Ушаччына не аднавіла свайго калісьці шматлікага насельніцтва.***
2-я стар.

# ЗВЯЗДА

23 жніўня 1996 г. пятніца, № 209 (23012)

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

## РОЗГАЛАС

### РЭСПУБЛІКАНСКАЯ НАРАДА ПЕРАНЕСЕНА НА ВЕРАСЕНЬ

Як паведаміла прэс-служба Прэзідэнта Беларусі, «у сувязі з актыўным правядзеннем сельскагаспадарчых работ, напружаным графікам работы Прэзідэнта А.Р.Лукашэнкі» рэспубліканская нарада па пытанню «Аб асноўных напрамках сацыяльна-эканамічнага развіцця Рэспублікі Беларусь да 2000 года», намечаная на 23 жніўня 1996 года, перанесена на верасень гэтага года.

**БЕЛТА.**

*Аляксандр ЛУКАШЭНКА:*

### «ПРЫ ЛЮБЫМ ЗЫХОДЗЕ РЭФЕРЭНДУМУ НАДЗВЫЧАЙШЧЫНЫ НЕ БУДЗЕ»

Даючы 22 жніўня інтэрв'ю тэлеслужбе амерыканскага інфармацыйнага агенцтва Асашыэйтэд Прэс, Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка адзначыў, што гатоў адказаць на любыя пытанні, якія цікавяць журналістаў, і выказаў на дзею і ўпэўненасць у тым, што атрыманая імі інфармацыя будзе перададзена аб'ектыўна. Карыстаючыся выпадкам, Прэзідэнт праз такое аўтарытэтнае агенцтва, як Асашыэйтэд Прэс, заклікаў заходніх журналістаў заняць у адносінах да беларускай дзяржавы больш узважаную пазіцыю.

Круг пытанняў, што цікавяць прадстаўнікоў Асашыэйтэд Прэс, ахопліваў спектр як знешнепалітычных, так і ўнутрыдзяржаўных праблем. У прыватнасці, размова ішла аб ролі Беларусі ў СНД і яе адносінах з галоўным стратэгічным партнёрам — Расіяй. Не абышлі карэспандэнты і пытанні развіцця адносінаў з краінамі далёкага замежжа, закранулі праблему прасоўвання НАТО на Усход і канкрэтныя дзеянні Прэзідэнта, накіраваныя на рэалізацыю прапанаванай ім канцэпцыі бяз'ядзернай зоны, узаемаадносіны кіраўніка дзяржавы і сродкаў масавай інфармацыі, у тым

**(Заканчэнне на 3-й стар.)**

### ВАЛЕРЫЙ ТАЛКАЧОЎ — КІРАЎНІК ПРЭС-СЛУЖБЫ ПРЭЗІДЭНТА

**Распараджэннем кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, па ўзгадненні з Прэзідэнтам А.Лукашэнкам, кіраўніком прэс-службы Прэзідэнта назначаны Валерый Іванавіч Талкачоў.**

Ён пачне выконваць свае абавязкі 26 жніўня 1996 года.

В.І.Талкачоў нарадзіўся ў 1954 годзе ў Столінскім раёне Брэсцкай вобласці. Па адукацыі — настаўнік гісторыі, кандыдат гістарычных навук. Да назначэння кіраўніком прэс-службы працаваў дацэнтам кафедры Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя Максіма Танка.

**БЕЛТА.**

### НАЗНАЧАНЫ ЎКАЗАМ ПРЭЗІДЭНТА

Генерал-маёр міліцыі Юрый Васільевіч Тарарын назначаны ўказам кіраўніка дзяржавы першым намеснікам Міністра ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь.

●

Указам Аляксандра Лукашэнкі першым намеснікам начальніка Галоўнага ўпраўлення крымінальнай міліцыі Міністэрства ўнутраных спраў назначаны палкоўнік міліцыі Мікалай Іванавіч Лапацік, які працаваў раней начальнікам упраўлення ўнутраных спраў Магілёўскага аблвыканкома.

●

Начальнікам упраўлення ўнутраных спраў Магілёўскага аблвыканкома назначаны ўказам Прэзідэнта Віталь Іванавіч Апанасевіч, які ўзначальваў да гэтага ўпраўленне ўнутраных спраў Гомельскага аблвыканкома.

●

Старшынёй Дзяржаўнага камітэта па справах моладзі Рэспублікі Беларусь назначаны ўказам кіраўніка дзяржавы Аляксандр Рыгоравіч Пазняк.

**БЕЛТА.**

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

№ 311

### АБ УНЯСЕННІ ЗМЯНЕННЯ І ДАПАЎНЕННЯЎ ВА ЎКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АД 24 МАЯ 1996 г. № 208

У мэтах павышэння ўзроўню агульнарэспубліканскай рэгістрацыі суб'ектаў гаспадарання **пастанаўляю:**

1. Унесці ў пункт 1 Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 24 мая 1996 г. № 208 «Аб некаторых мерах па ўпарадкаванню дзейнасці суб'ектаў гаспадарання» (Збор указаў Прэзідэнта і пастаноў Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь, 1996 г., № 16, арт.390) наступныя змяненне і дапаўненні:

частку трэцюю выкласці ў наступнай рэдакцыі:

«Агульнарэспубліканская рэгістрацыя суб'ектаў гаспадарання, акрамя прадпрыемстваў з замежнымі інвестыцыямі і страхавых арганізацый, ажыццяўляецца аблвыканкомамі і Мінскім гарвыканкомам»;

пасля часткі трэцяй дапоўніць пункт часткамі наступнага зместу:

«Агульнарэспубліканская рэгістрацыя прадпрыемстваў з замежнымі інвестыцыямі праводзіцца Міністэрствам знешніх эканамічных сувязей, страхавых арганізацый — Дзяржаўным страхавым наглядам пры Міністэрстве фінансаў.

Аблвыканкомы і Мінскі гарвыканком маюць права прыцягваць да ажыццяўлення агульнарэспубліканскай рэгістрацыі іншыя мясцовыя выканаўчыя і распарадчыя органы, надзяляючы іх адпаведнымі паўнамоцтвамі.

Агульнарэспубліканская рэгістрацыя ажыццяўляецца на падставе дакументаў, што прадстаўляюцца суб'ектамі гаспадарання ў адпаведнасці з заканадаўствам для дзяржаўнай рэгістрацыі».

Часткі чацвёртую, пятую і шостую пункта 1 Указа лічыць адпаведна часткамі сёмай, восьмай і дзевятай.

2. Гэты Указ уводзіцца ў дзеянне з дня яго падпісання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.ЛУКАШЭНКА.**

21 жніўня 1996 г., г. Мінск.

## ДАПАЎНЕННЕ ДА САЦЫЯЛЬНЫХ ГАРАНТЫЙ

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка 21 жніўня падпісаў указ, якім унесена дапаўненне ва Указ Прэзідэнта «Аб некаторых сацыяльных гарантыях ваеннаслужачых, асоб начальніцкага і радавога саставу органаў унутраных спраў і пракурорскіх работнікаў» ад 31 кастрычніка 1995 года.

«Курсантам і слухачам навучальных установ, якія вучацца ў вышэйшых навучальных установах дзяржаў—удзельніц Садружнасці Незалежных Дзяржаў па накіраванню Міністэрства абароны і іншых цэнтральных органаў кіравання, што маюць воінскія фарміраванні, выдаткі на праезд чыгуначным, паветраным, водным і аўтамабільным транспартам у водпуск да месца пражывання і назад кампенсуюцца названымі міністэрствамі і цэнтральнымі органамі кіравання ў межах дзяржаў—удзельніц Садружнасці Незалежных Дзяржаў (акрамя тэрыторыі Рэспублікі Беларусь)», — гаворыцца ў дапаўненні.

Указ уступіў у сілу з моманту падпісання.

**БЕЛТА.**

## РАСПАРАДЖЭННЕ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

№ 251рп

### АБ АКАЗАННІ МАТЭРЫЯЛЬНАЙ ДАПАМОГІ МНАГАДЗЕТНЫМ СЕМ'ЯМ

1. У сувязі з падрыхтоўкай да новага навучальнага года Мінфіну выдзеліць раённым і гарадскім выканаўчым камітэтам са спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь 38 млрд. рублёў для аказання матэрыяльнай дапамогі мнагадзетным сем'ям.

2. Устанавіць, што:

2.1. Права на атрыманне аднаразовай грашовай дапамогі маюць сем'і, якія выхоўваюць трое і больш дзяцей ва ўзросце да 18 гадоў, за выключэннем сем'яў, у якіх даход на аднаго члена сям'і перавышае мінімальны спажывецкі бюджэт, а таксама ў якіх абодва працаздольныя бацькі не працуюць, не вучацца і не зарэгістраваны ў дзяржаўнай службе занятасці ў якасці беспрацоўных;

2.2. Аднаразовая грашовая дапамога аказваецца ў памеры 500 тыс. рублёў на кожнае дзіця — вучня дзённай сярэдняй школы, гімназіі, ліцэя і іншай аналагічнай навучальнай установы па стану на 1 верасня 1996 г. (за выключэннем дзяцей, якія вучацца ў школах-інтэрнатах усіх тыпаў);

2.3. Аднаразовая грашовая дапамога выплачваецца ў жніўні-верасні 1996 г. органамі сацыяльнага забеспячэння па месцы пражывання на падставе рашэнняў камісій, спецыяльна створаных пры раённых і гарадскіх выканаўчых камітэтах, у саставу якіх уключаюцца прадстаўнікі Беларускай асацыяцыі мнагадзетных бацькоў, заявы аднаго з бацькоў (усынавіцеля, апекуна, папячыцеля), даведак з месца работы, з месца пражывання, аб саставе сям'і, даведкі адпаведнай навучальнай установы і вынікаў абследавання матэрыяльнага становішча сям'і;

2.4. Органы сацыяльнага забеспячэння па месцы пражывання на падставе рашэнняў указаных камісій замест аказання аднаразовай грашовай дапамогі маюць права выдаваць сем'ям адзенне, абутак для вучняў, прылады, прызначаныя для іх вучобы, на суму, вызначаную гэтым пунктам;

2.5. Матэрыяльная дапамога аказваецца за кошт сродкаў мясцовых бюджэтаў, якім у тыднёвы тэрмін Мінфінам кампенсуюцца сумы гэтых расходаў.

3. Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь пры неабходнасці даваць растлумачэнні аб парадку аказання дапамогі, прадугледжанай гэтым распараджэннем.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.ЛУКАШЭНКА.**

21 жніўня 1996 г., г.Мінск.

*УРАДЖАЙ-96*

## ЗБОЖЖА ПАВІННА ІСЦІ Ў ДЗЯРЖАЎНУЮ СКАРБОНКУ

**«Уборка ў завяршальнай стадыі», — менавіта з такіх слоў пачаўся ўчора ў Нацыянальным прэс-цэнтры брыфінг, які праводзіў намеснік міністра сельскай гаспадаркі Іван Пятровіч Шакола.**

Нягледзячы на чатырохдзённае адставанне ад тэмпаў мінулагодняй уборкі, сёлетняе жніво пасьпяхова выйшла на фінішную прамую: паводле апошніх даных, убрана збожжавых з плошчы ў 1.995.400 гектараў, што складае 78 працэнтаў ад засеянага. У паўднёвых рэгіёнах гэтыя лічбы вышэй — у Гомельскай вобласці — 83 працэнты, а ў Брэсцкай — 81.

Ураджайнасць увогуле па рэспубліцы зафіксавалася на працягу амаль двух тыдняў на адзнацы 24,7 цэнтнера з гектара. Аднак агульны паказчык даволі дрэнна адлюстроўвае дасягненні асобных гаспадарак. А яны ўражваюць.

Так, у калгасе «Свіслач» Гродзенскага раёна ўраджайнасць складае 54 цэнтнеры з гектара. Каля дваццаці раёнаў маюць паказчыкі ад 32 да 37 цэнтнераў з гектара.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

*НАДЗЁННАЕ*

**Уладзімір БЕЛЬСКІ:**

## *«Кансалідацыя на базе дзяржаўнай ідэалогіі, прыхільнасці і павагі да дзяржавы — вось, мяркую, той шлях, па якому нам трэба ісці...»*

**Прайшло паўгода з моманту прызначэння на пасаду старшыні Дзяржкамдруку Уладзіміра Пятровіча Бельскага. Самы час, каб падвесці сякія-такія вынікі, прааналізаваць, што зроблена, што атрымалася за гэты час. Але ж таксама і час, які дае падставы для грунтоўнага, асэнсаванага праектавання блізкага заўтра ў сферы сродкаў масавай інфармацыі, кнігадрукавання, беларускай паліграфіі. Якраз гэта і паслужыла штуршком для дыялогу са старшынёй Дзяржкамдруку. Праўда, хацелася б заўважыць адразу: не шукайце прамалінейных вымярэнняў накшталт «запланавана-зроблена». Гутарка наша скіравана па шляху высвятлення, што ж складае практычную палітыку дзяржавы ў сферы друкаванага слова.**

● ***Дзяржкамдрук і сродкі масавай інфармацыі. Палітыка кіравання альбо дапамогі і падтрымкі?***

**— Дык хто ж вы ўсё-такі: міністэрства праўды — кіраўнікі і кантралёры альбо памочнікі і дарадцы? Ці можна, улічваючы характар функцыянальных абавязкаў кожнага з вашых падначаленых і вашы таксама, Уладзімір Пятровіч, вынайсці пэўную форму прыкладання намаганняў Дзяржкамдруку?**

— Ужо ў вашым пытанні ўвогуле акрэслены нашы абсягі. Але не трэба ўкладваць у іх тыя альбо іншыя адценні. Давайце суаднясёмся з дзяржаўнымі задачамі. Мы ўсё ж — носьбіты і выканаўцы агульнадзяржаўных клопатаў і інтарэсаў. І калі размова заходзіць пра дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі, то тут мы і кіраўнікі, і кантралёры, калі хочаце, і тыя ж дарадцы і памочнікі...

**— І як жа, якім чынам ажыццяўляецца ваша ўлада?**

— Найперш хачу падкрэсліць наступнае. Уся шырыня, абсяг, уся ініцыятыва нашага кіраўніцтва будуюцца не на голым месцы. Дзяржаўныя інтарэсы — вось і пачатак, і мерка, і вышыня, з якой зыходзім.

Зараз кіраўніцтва праяўляецца ў перазаключэнні кантрактаў з галоўнымі рэдактарамі выданняў, заснавальнікамі якіх з'яўляюцца органы дзяржаўнага кіравання і якія мы фінансуем напрамую.

З нашага ўзгаднення будуць прызначацца на пасады і астатнія галоўныя рэдактары выданняў, зноў жа фінансуемых з дзяржбюджэту.

**— Але ж Міністэрства адукацыі — заснавальнік...**

— А фінансаванне ідзе праз нас. Па-другое, мы ж не працаўнікі міністэрства і лічым, што разам павінны працаваць на дзяржаву.

Вось і будзем заключаць кантракты з галоўнымі рэдактарамі. Да таго ж часцей будзем ажыццяўляць кантроль праз праверкі. Дзяржкамдрук мае, згодна з Палажэннем аб ім, права праверкі паліграфічных прадпрыемстваў, сродкаў масавай інфармацыі, незалежна ад іх прыналежнасці, незалежна ад формы ўласнасці. Як апошні прыклад — праверка «Настаўніцкай газеты», галоўны рэдактар якой «налічваў» у месяц да 14 мільёнаў рублёў, пры акладзе — адзін мільён. Злоўжыванне кіраўніка. Адразу ж — інфармацыя Міністэрству адукацыі: вы ведаеце пра гэта?..

**(Заканчэнне на 2-й стар.)**

*ЦЭНЫ*

### ЦЭНЫ НА АГАРОДНІНУ «АБРЫНУЛІСЯ». У БОК ЗМЯНШЭННЯ

**Як паведамілі карэспандэнту «Звязды» ў Камітэце цэн Мінэканомікі, пасля некалькіх тыдняў зацішша ў шэрагу рэгіёнаў краіны ў дзяржгандлі «заварушыліся» рознічныя цэны на прадукты харчавання. На радасць пакупнікоў, на гэты раз — у бок змяншэння.**

У асноўным змяненні датычыліся агародніннай прадукцыі, што, безумоўна, звязана з паступленнем у дзяржгандаль сёлетняга ўраджаю.

У прыватнасці, значна ўпалі цэны на бульбу: ад 8,6 працэнта ў Гродзенскай вобласці (з 3.500 да 3.200 рублёў за кілаграм) да 40 працэнтаў у Мінскай (з 5.000 да 3.000 рублёў).

Свежая капуста патаннела яшчэ больш: ад 20,7 працэнта ў Брэсце (з 2.900 да 2.300 рублёў за кілаграм) да 42,9 працэнта ў Мінскай вобласці і Магілёве (з 7.000 да 4.000 рублёў). Таксама практычна ва ўсіх абласных цэнтрах сталі больш па кішэні пакупнікам цыбуля, морква, буракі. У Магілёве да таго ж зменшыўся кошт (з 34.800 да 32.800 рублёў за кілаграм) фаршу з ялавічыны. Аддзел цэнаўтварэння мясцовага аблвыканкома тлумачыць гэта зніжэннем спажывецкага попыту з-за высокіх цэн.

Не абышлося і без «лыжкі дзёгцю». У Гомелі на 200 рублёў за кілаграм узнялася ў цане мука вышэйшага і першага гатункаў, у Віцебску на гэтую ж лічбу павялічыўся кошт хлеба масавых гатункаў і батонаў першага гатунку. На 100 рублёў падаражэў і хлеб у Магілёве.

Як тлумачаць гэтую з'яву спецыялісты, павелічэнне кошту звязана з выкарыстаннем зерня новага ўраджаю, на якое павялічваюцца закупачныя цэны з-за росту курса долара...

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

### «ЗАСВЯЦІЎСЯ» БАНКІР

**Апошнія падзеі, якія адбыліся ў Маладзечне, бачна па ўсім, засталіся па-за ўвагай. Тым не менш работа, якую правялі супрацоўнікі міліцыі, закранула «інтарэсы» даволі грашавітых персон. Затрыманы былі кіраўнік аднаго з камерцыйных банкаў і яшчэ два чалавекі, якія мелі справу з вялікімі фінансавымі сродкамі.**

Як нам удалося высветліць у кампетэнтных крыніцах, «цікаўнасць» аператыўнікаў выклікаў былы кіраўнік банка «Альянс», які абвінавачваецца ў атрыманні крэдытаў з афармленнем іх на сваіх сваякоў. Як вядома, гэты банк самаліквідаваўся, аднак, падобна, шлейф былых спраў усё ж такі «дастаў» банкіра.

Вядзецца следства і па справах яшчэ двух прадпрымальных асоб, адна з якіх абвінавачваецца ў дачы хабару, а другая — у ажыццяўленні валютных махінацый. На жаль, больш падрабязную інфармацыю наконт гэтых спраў нам пакуль атрымаць не ўдалося. Аднак спадзяёмся, што крыху пазней мы вернемся да гэтых крымінальных сюжэтаў.

**Ігар ГРЫШЫН.**

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

№ 312

### АБ УНЯСЕННІ ЗМЯНЕННЯ І ДАПАЎНЕННЯ ВА ЎКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АД 27 ЛІСТАПАДА 1995 г. № 483

У мэтах забеспячэння своечасовай выплаты аліментаў і дапамог па дзяржаўнаму сацыяльнаму страхаванню **пастанаўляю:**

1. Унесці ў абзац трэці пункта 1 Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 27 лістапада 1995 г. № 483 «Аб забеспячэнні своечасовай выплаты заработнай платы» (Збор указаў Прэзідэнта і пастаноў Кабінета Міністраў Рэспублікі Беларусь, 1995 г., № 34, арт. 821; 1996 г., № 15, арт. 353) наступныя змяненне і дапаўненне:

словы: «і страхавых узносаў на гэтыя сумы ў Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва Міністэрства сацыяльнай абароны» замяніць словамі: «аліментаў, страхавых узносаў на гэтыя сумы ў Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва Міністэрства сацыяльнай абароны і дапамог па дзяржаўнаму сацыяльнаму страхаванню»;

дапоўніць абзац пасля слоў: «заработнай платы, выхадных дапамог» словамі: «дапамог па дзяржаўнаму сацыяльнаму страхаванню».

2. Гэты Указ уводзіцца ў дзеянне з дня яго падпісання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.ЛУКАШЭНКА.**

21 жніўня 1996 г.
г.Мінск.

### *АДНЫМ СКАЗАМ*

❑ У першым паўгоддзі толькі за кошт куплі **інвалюты** з абароту было канфіскавана **каля 470 мільярдаў беларускіх** рублёў, інвалютныя дэпазіты скараціліся на 71 мільён долараў або на 15 працэнтаў.

❑ На галоўным канвееры МТЗ сабрана **навінка**: гэта трактар **«МТЗ-80Х»** з дызелем «Д-245», які ў агрэгаце з хлопкаўборачнай машынай амерыканскай фірмы «Джон-Дзір» будзе працаваць на бавоўнавых палях.

❑ За сем месяцаў **чыгунка** за кошт стратных пасажырскіх перавозак **страціла** 523 мільярды рублёў.

❑ Днямі тры ўзоры новых пашпартоў — **агульнаграмадзянскага** (цёмна-сіні), **службовага** (бардовы) і **дыпламатычнага** (цёмна-зялёны) і іх тэхнічныя апісанні будуць адпраўлены на зацвярджэнне.

❑ Калі ў пачатку года ўдзельная вага **пратэрмінаванай запазычанасці** ў фондзе зарплаты складала 3,6 працэнта, то па стану на 25 ліпеня — 6 працэнтаў, або 1063,3 мільярда рублёў.

❑ 71,2 працэнта **даходаў** беларусаў, паводле даных за 7 месяцаў, было выкарыстана **на накапленне зберажэнняў** ва ўкладах і каштоўных паперах, **пакупку валюты**; 6,3 працэнта — на **аплату абавязковых плацяжоў.**

❑ Калі ў 1986—1997 гадах было ўчынена 50 тысяч злачынстваў, то ў мінулым — **131 тысяча**, а што датычыцца **наўмысных забойстваў,** то за сем месяцаў гэтага года іх учынена 612.

❑ **Для барацьбы з арганізаванай злачыннасцю** ФБР ЗША ў два разы — з 23 да 46 — павялічвае колькасць сваіх прадстаўнікоў за мяжой.

## КУРСЫ АБМЕНУ НАЯЎНЫХ ВАЛЮТ у камерцыйных банках на 22 жніўня 1996 г.

| Назва банка | Долар ЗША | | Нямецкая марка | | Расійскі рубель | | Тэлефоны |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Купля | Продаж | Купля | Продаж | Купля | Продаж | |
| ФК «Вераніка»* за рас. рублі | 16280 5360 | 16540 5470 | 10920 | 11420 | 3.00 | 3.07 | 531-504 |
| Гал. упр. НБ па Мінску і Мінскай вобл. з улікам дылінг. прэміі | 16400 | | 10900 | | 3.00 | | 26-64-41 |
| Ф-л 0104 АКБ «Мінскі транзітны банк» з улікам дыл. прэміі | 16150 | 16450 | 10700 | 10850 | 2.90 | 3.05 | 372-825 |
| Ф-л № 3 «Гарант» АСКБ «Тэхнабанк»* | 16300 5344 | 16461 5468 | 10918 | 11061 | 3.01 | 3.05 | 331-917 |
| СКБ «Тэхнабанк» з улікам дыл. прэміі | 16250 | 16550 | 10800 | 11000 | 2.96 | 3.05 | 342-012 |
| Нацыянальны банк РБ (курс для безнаяўных разлікаў) | 14300 | | 9592.17 | | 2.67 | | |
| Цэнтрабанк Расіі | 5305 | | 3563.75 | | 100 бел. р. 32.10 | | |

* Аперацыя з валютай вышэй за 1000$ праводзіцца на дагаворных умовах.

На працягу дня ўстаноўленыя курсы могуць мяняцца, курсы Галаўнога ўпраўлення банка могуць нязначна адрозніваецца ад курсаў, устаноўленых у абменных пунктах.

Інфармацыя атрымана ад галаўных упраўленняў негандлёвых аперацый адпаведных банкаў.

**Інфармацыя прадастаўлена агенцтвам Граўцова.**

## ПРЭЗІДЭНТ І «БЕЛАРУСБАНК» ПЛАЦЯЦЬ ПА ДАЎГАХ СВАІХ ПАПЯРЭДНІКАЎ — ПАЛІТЫКАЎ І ФІНАНСІСТАЎ

**Як вядома, у адпаведнасці з Указам Прэзідэнта рэспублікі ад 8 мая 1996 года № 168 «Аб кампенсацыі ўкладаў насельніцтва» ва ўстановах Акцыянернага ашчаднага банка «Беларусбанк» пачата выплата кампенсацыі ветэранам Вялікай Айчыннай вайны, меўшым уклады ў Ашчадбанку па стану на 1 студзеня 1992 года. Аб тым, як ідзе гэты працэс, а таксама аб сітуацыі з кампенсацыяй іншым катэгорыям укладчыкаў карэспандэнт БелаПАН папрасіў расказаць старшыню праўлення АСБ «Беларусбанк» Надзею ЕРМАКОВУ.**

— З ашчадным банкам у любой дзяржаве па прычыне самой яго спецыфікі грамадзяне звязваюць свае надзеі на паляпшэнне дабрабыту. Тым больш — ва ўмовах, калі людзям важна не толькі памножыць заробленае, але і, у першую чаргу, захаваць яго ад магчымых узрушэнняў на фінансавым рынку. Гэта і з'яўляецца сёння галоўнай задачай Акцыянернага ашчаднага банка «Беларусбанк», у якім сканцэнтраваны ўклады ледзь не паловы грамадзян, а яго філіялы дзейнічаюць у кожным больш-менш буйным населеным пункце рэспублікі.

Па стану на пачатак гэтага года ўклады насельніцтва ў АСБ «Беларусбанк» склалі 46 працэнтаў агульнай сумы ўкладаў у беларускія банкі. Такой разгалінаванай сеткі (2381 аддзяленне, 197 філіялаў, 187 прадстаўніцтваў, 29 разлікова-касавых цэнтраў) не мае больш ніводная з фінансавых установ Беларусі.

Варта адзначыць, што ў канцы васьмідзесятых—пачатку дзевяностых гадоў эканамічная палітыка, праводзімая тагачасным кіраўніцтвам Савецкага Саюза і Беларусі, нанесла сур'ёзны ўдар па аўтарытэту ашчадбанкаў. Аднак нельга сказаць, што дзяржава не спрабавала хоць бы часткова кампенсаваць урон, нанесены народу інфляцыяй. Так, была зроблена кампенсацыя ўсіх відаў укладаў шляхам павелічэння на 40 працэнтаў астатку на 1 сакавіка 1991 года. Уклады на 1.01.1991 года былі праіндэксаваны шляхам павелічэння астатку ўкладу да 1 тысячы рублёў у 5 разоў і на 4 тысячы рублёў — звыш адной тысячы рублёў.

Астатак укладу па стану на 1.01.1992 года кампенсаваўся таксама двойчы: шляхам карэкціроўкі сум да 10 тысяч рублёў уключна па кожнаму ўкладу на індэкс спажывецкіх цэн (19,3 працэнта) і шляхам павелічэння ў 10 разоў з улікам дэнамінацыі (за выключэннем кампенсацыйных укладаў).

У лютым 1995 года зроблена разавая індэксацыя зберажэнняў насельніцтва, якія захоўваюцца на спецыяльных рублёвых рахунках (чэкі «Знешпасылгандлю»), шляхам пераразліку іх астаткаў па стану на 1.01.1994 года праз доларавы эквівалент па курсу Нацыянальнага банка на 1.01.1995 года.

Пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 27 снежня 1993 года № 865 уладальнікам укладаў, што знаходзіліся ў Ашчадным банку на 1 студзеня 1991 года, прадугледжана дадатковае налічэнне імянных прыватызацыйных чэкаў «Маёмасць» у залежнасці ад памеру ўкладу.

Цяперашняе кіраўніцтва рэспублікі не нясе маральнай адказнасці за ўрон, прычынены ўкладчыкам палітыкай папярэдняй улады. Тым не менш, Прэзідэнт і ўрад, разумеючы несправядлівасць, якой падвергліся ўкладчыкі, прымаюць канкрэтныя меры па выпраўленню чужых памылак.

Указам Прэзідэнта № 168 ад 8 мая 1996 года прадугледжана кампенсацыя ўкладаў ветэранаў вайны. Яна праводзіцца шляхам павелічэння астаткаў сродкаў на рахунках у Ашчадным банку ў 1000 разоў. У адпаведнасці з гэтым указам правам на кампенсацыю ўкладаў у Акцыянерным ашчадным банку «Беларусбанк» валодаюць ветэраны вайны, пералічаныя ў артыкуле 2 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб ветэранах». Кампенсацыі падлягаюць уклады, адкрытыя на імя ўкладчыка — ветэрана вайны, грамадзяніна Рэспублікі Беларусь, па стану на 1 студзеня 1992 года. Уклады, адкрытыя ветэранамі вайны на імёны іншых асоб, кампенсацыі не падлягаюць. Падставай для налічэння кампенсацыі з'яўляецца афармленне адпаведнай заявы ад імя ўкладчыка — ветэрана вайны пры прад'яўленні дакумента, які сведчыць асобу, а таксама дакумента, які пацвярджае статус ветэрана вайны.

**(Заканчэнне на 3-й стар.)**

## ПРЭЗІДЭНТ УПЭЎНЕНЫ, ШТО ПРАВЯДЗЕННЮ РЭФЕРЭНДУМУ НІШТО НЕ ЗМОЖА ПЕРАШКОДЗІЦЬ

**Як вядома, 7 жніўня Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка ўнёс прапанову па правядзенню рэферэндуму. Значыць, Вярхоўны Савет, як прадугледжана дзеючым заканадаўствам, павінен назначыць дату правядзення плебісцыту не пазней за 7 лістапада, чаго і чакае кіраўнік дзяржавы.**

Разам з тым Прэзідэнт заявіў, што калі парламент не прыме рашэння ва ўстаноўленыя законам тэрміны, то ўсенароднае апытанне будзе праведзена ўказам кіраўніка дзяржавы.

Аляксандр Лукашэнка сказаў, што размовы аб тым, быццам рэферэндум праводзіцца для роспуску парламента, не адпавядаюць сапраўднасці. Ён адзначыў, што лічыць большасць дэпутатаў Вярхоўнага Савета здольнымі працаваць. Прэзідэнт падкрэсліў, што калі будзе падтрыманы праект новай Канстытуцыі, які прадугледжвае двухпалатны парламент — Нацыянальны сход, то лічыць мэтазгодным для захавання стабільнасці і спакою, а таксама, каб пазбегнуць чарговых выбараў, сфарміраваць яго з цяперашніх дэпутатаў.

**(Заканчэнне на 3-й стар.)**

### УМОВЫ конкурсу сярод паштальёнаў РА «Белпошта» па дасягненню найлепшых вынікаў падпіскі на газету «Звязда» на чацвёрты квартал 1996 г.

Зыходзячы з мэты далейшага пашырэння кола падпісчыкаў газеты «Звязда» і ў сувязі з 80-годдзем выхаду першага нумара, рэдакцыя стымулюе працу паштальёнаў у чацвёртым квартале 1996 года на наступных умовах:

Удзельнікамі конкурсу могуць быць як штатныя паштальёны паштовых аддзяленняў, так і няштатныя распаўсюджвальнікі газеты «Звязда», якія займаюцца падпіскай па дамоўленасці з поштай.

Удзельнікі конкурсу дасылаюць асабістыя вынікі дасягнутай падпіскі непасрэдна ў рэдакцыю на спецыяльным бланку, які змяшчае газета, ці на адвольным аркушы (але з абавязковым указаннем неабходных звестак).

Пасля падвядзення вынікаў конкурсу пераможцы ўзнагароджваюцца каштоўнымі прызамі і грашовымі прэміямі па наступных паказчыках:

**1 месца — найбольшая колькасць падпісчыкаў, але не менш як 100**
**2 месца — найбольшая колькасць падпісчыкаў, але не менш як 80**
**3 месца — найбольшая колькасць падпісчыкаў, але не менш як 70**

Трыццаць заахвочвальных прэмій прысуджаюцца за лепшыя паказчыкі падпіскі, якія ідуць следам за трыма першымі пераможцамі.

**Прызы пераможцам конкурсу ўстаноўлены наступныя:**
**1 месца — матаблок вытворчасці МТЗ**
**2 месца — каляровы тэлевізар**
**3 месца — пральная машына**

У трыццаць заахвочвальных прэмій будуць уключаны іншыя тавары народнага ўжытку: гадзіннікі, прасы, фены і г. д.

Ф.СП-1

Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

АБАНЕМЕНТ на газету **63850** (індэкс выдання)

ЗВЯЗДА

Колькасць камплектаў

на 1996 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

ПВ | месца | літар

ДАСТАВАЧНАЯ КАРТКА на газету **63850** (індэкс выдання)

ЗВЯЗДА

Кошт: падпіскі ______ руб.; пераадрасоўкі ______ руб. Колькасць камплектаў

на 1996 год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды (паштовы індэкс) (адрас)

Каму (прозвішча, ініцыялы)

